# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 23 (1267) ГОД XXV БЕЛАСТОК 8 ЧЭРВЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.


**ПАВУЧЫЦЦА Ў СУСЕДЗЯЎ**




Рэдка даводзіцца бываць нам на захад ад шашы з Бельска ў Сямяцічы цераз Боцькі — там, дзе распасціраецца гаспадарная **Бранская** гміна. Вёскі тут пераважна населеныя патомкамі даўнейшай засцянковай шляхты.

Але не таму я тут. Цікавіла мяне іх гаспадарнасць, іх слава выдатных жывёлаводаў. Найперш папаў я на невялікую, але павучальную выстаўку навейшай сельскагаспадарчай тэхнікі для нарыхтоўкі кармоў. Дырэктар Бранскага СКР **Багдан Хаецкі** найбольш хваліў камбайн **„КС 1-8“** савецкай вытворчасці, прызначаны для нарыхтоўкі сіласу і ўборкі ўсялякіх траў.

— Фантастычная машына! — захапляўся ён. — На працягу двух мінулых гадоў прайшла яна ў нас выдатна экзамен у найцяжэйшых умовах. Косіць усё: і траву, і люцэрну, і кукурузу, якой у гэтым годзе ў нашай гміне будзе для ўборкі звыш 50 га...

Каб толькі былі гэтыя машыны ў продажы! Бяда, што іх не хапае. Нават восьгэты камбайн, — ён паказаў аграмадную машыну для нарыхтоўкі сенажу, — добрыя гаспадары ахвотна купілі б, хаця яна каштуе звыш паўмільёна злотых. Трэба ведаць, што не лічацца грошы, а час і магчымасць хуткага выкарыстання спрыяючага надвор'я. Лічыць трэба не цану машын, але эфект іх працы, што яны даюць, як служаць селяніну. У мінулым годзе, для прыкладу, у трох гаспадароў наладзілі мы ўборку сена, каб паказаць, як можна выкарыстаць сучасную тэхніку. Найперш пусцілі ратацыйную касярку, за ёю ішла растрасалка, якая сушыла траву, пасля самапагрузачны прычэп яе падбіраў, трактарам адвозілі на панадворак і паветранай дзьмухавай

(Працяг на стар. 4)



**З альбома натураліста.** Вяз перад Домам культуры ў Бельску. Побач помнік ахвярам вайны 1941-1945. Мал. Б. Ф. Рудкоўскіна

# Дзень добры, мілая КНіГАРНЯ!..

У пасляваенным Беластоку гэта была адна з галоўных вуліц, можна сказаць — яго культурны цэнтр. Гэта ж на кароценькай ды крывенькай вуліцы Кілінскага ў розныя гады знаходзіліся Ваяводскі дом культуры, Мастацкі ліцэй, Ваяводская бібліятэка, два з трох беластоцкіх музеяў — Музей рэвалюцыйнага руху і музей Войска Польскага, рэдакцыі „Газеты беластоцкай“ і „Нівы“. Адсюль усяго ў некалькіх кроках доўгі час найбольшая ў горадзе глядзельная зала кіно „Тон“ з аднаго боку, а з другога — утульны драматычны тэатр імя А. Вянгеркі. І сярод іх, уціснутая ў даўнюю мяшчанскую камяніцу, яна — кнігарня імпартных выданняў „Дома кнігі“, або як усе звыкліся яе называць — кнігарня савецкіх кніг. Штодзень яе наведвае некалькі соцень пакупнікоў, і рэдка які выходзіць без нейкага каштоўнага набытку.

Яна здаўна прыйшлася па густу таму мноству прыяцеляў Савецкага Саюза і любіцеляў багатай культуры яго народаў, што жывуць не толькі ў Беластоку, па ўсёй Беласточчыне, але і з усёй Польшчы. Прамінулі гады, разрастаўся і маладзеў горад, мяняў сваё аблічча. Штораз то іншы сусед кнігарні справляў наваселле ў новым, лепшым, выгаднейшым памяшканні ў новых раёнах горада, а яна асталася вернай сваім старым сценам. Патокі людзей і машын прабілі сабе іншыя русы і магістралі. Абпылілі яны з абодвух бакоў, і стала даўняя Кілінскага вострававам зацішша і таго лірычнага настрою, які можа затаіцца толькі сярод колішніх сецэсійных мураў. Але гэтыя перамены не зменшылі папулярнасці кнігарні, нават спрыяюць ёй.

— Чаго шукаюць і што знаходзяць у нас пакупнікі? — перапытвае ў мяне кіраўнік кнігарні **Яніна Казбярук**. — Зацікаўленні нашых кліентаў вельмі шырокія і разнастайныя. Перш за ўсё яны шукаюць твораў рускай і савецкай мастацкай літаратуры — твораў Пушкіна, Лермантава, Дастаеўскага, Тургенева, Талстога, Ясеніна, Шукшына, Быкава — усіх папулярных у нас аўтараў не пералічыць. Калі з'яўляюцца ў нас кнігі Ахматавай, Булгакава ці Раджэстэенскага — разыходзяцца мігам, за адзін дзень. Таксама вельмі папулярныя савецкія выданні для дзяцей, асабліва з каляровымі ілюстрацыямі, а дзіцячыя „складанкі“ прадаюцца па сотні за гадзіну. Хутка раскупляюцца розныя альбомныя выданні па мастацтву рускаму, народаў СССР, савецкаму, заходнееўрапейскаму, сусветнаму. Людзі проста палююць на альбомы са зборамі Эрмітажа, Рускага музея, Трэцякоўскай галерэі, а таксама на выданні з серыі „Музеі свету“. Ахвотна набываюць дасканалыя савецкія рэпрадукцыі на палатне карцін вядомых мастакоў, каб аздобіць сваю кватэру. Вучоныя з Беластока і іншых навуковых цэнтраў Польшчы купляюць выданні па матэматыцы, фізіцы, медыцыне, мовазнаўству, з розных галін тэхнікі. Ну і вядома — у нас аграмадны попыт на ўсё, што дапамагае вывучэнню рускай і іншых моваў: слоўнікі, падручнікі, самавучкі. Не залежваюцца таксама розныя энцыклапедычныя выданні. На жаль, не заўсёды трапляе да нас тое, што мы заказваем. А тое, што заказваем, прыходзіць не ў такіх колькасцях, якія нам патрэбны. Цікавых, „ходкіх“ выданняў заўсёды замала. Здараюцца таксама розныя непаразуменні, напрыклад, са шматтомных выданняў першых тамоў нам прысылаюць часам у два разы менш, чым наступных. І што тады рабіць?

У гэтым пытанні выяўляюцца тыя няспынныя клопаты і захады працаў-

Працяг на стар.4

**КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ**

Паехаў ён у лес па дровы, і ажылі карціны яго няволі і нядолі, пагроза смерці. Было гэта ў 1942 годзе. Жалі тады авёс. Пагода сонечная, радасная, а ў яго гора на душы. Ён развітаўся з бацькамі, сваякамі, з роднай вёскаю Трасцянкаю. І слёзы, і плач, і трывога на сэрцы і ў яго самога і ў бацькоў. Ён, пятнаццацігадовы юнак, вызначаны быў ехаць у Германію. Не паехаў, схаваўся. Але пасля ўгаварылі бацькі. Баяліся, што ўсіх іх пастраляюць немцы. І завезлі яго ў Прусію на фабрыку ліманаду. Было там шмат моладзі з многіх краін, але найбольш было рускіх. З Андрэем Белікам і Паўлам Клюйко падружыў Мікалай Петручук. Яны намагаліся арганізаваць падпольную дзейнасць супольна з некаторымі немцамі-антыфашыстамі. І праз сваю нявопытнасць наткнуліся на гестапаўцаў, якія прытварыліся ворагамі гітлерызму. Усіх іх арыштавалі і завезлі ў лагер палітычных вязняў у Ангенбургу.

— Але мяне, як непаўналетняга, — гаворыць Мікалай Петручук, — перавезлі ў лагер Хохэнбург. Быў я там сем месяцаў. З лагера мяне і трыццаць дзяўчат пасылалі на работу ў маёнтак. Сядзеўшых там савецкіх партызан ганялі ў багна капаць меліярацыйныя равы. Была гэта катаржная работа ў балоце і вадзе. Людзі паміралі ад голаду і холаду. З нашых бакоў быў таксама разам з савецкімі партызанамі былы партызан Аляксандр Жак. Памёр ён пры гэтай катаржнай рабоце на пятнаццатым тыдні. Дакучаў і нам голад, — прадаўжае Мікалай Петручук, — але нас падкормлівалі французы.

З гэтага лагера перавезлі яго ў Кенігсберг на працу ў пякарні. На гэтым месцы прабыў ён больш года. Даходзілі весткі, што немцы адступаюць, што хутка наступіць вызваленне. У 1945 годзе жылі ўсе той надзеяй, што гэтае

# Мікалай ПЕТРУЧУК



вызваленне ўжо зусім блізкае. Але дачакацца было цяжка: Бесперапынна гінулі людзі. Нарэшце фронт наблізіўся пад Кенігсберг. Першае наступленне Савецкай Арміі на горад не ўдалося. У той час немцы быўшых там іншаземцаў пагналі капаць акопы. Савецкія ваеннапалонныя, капаючы акопы і выкладаючы іх фашынаю, закладалі туды міны. Немцы выкрылі гэта.

— Тады нас арыштавалі, — прадаўжае расказваць Мікалай Петручук, — і здзекваліся страшэнна, але ніхто не прызнаўся, адкуль бралі міны і хто іх падкладаў. Неўзабаве наляцелі савецкія самалёты. Падчас бамбардзіроўкі, а ў такі час заўсёды ў немцаў была паніка, арыштаваныя павывалі вокны і ўцяклі.

— Падчас уцёку, — успамінае Мікалай Петручук, — адзін чалавек з Беластока, прозвішча не магу цяпер успомніць, быў моцна паранены, але таксама ўцёк, хаваўся і, падлечаны, дамоў вярнуўся з сямю кулямі ў целе. А я схаваўся ў немца Альфонса Рынкевіча і так дачакаўся Саветаў. Зразумела, было многа радасці.

(Працяг на стар. 5)

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Ад гэтага нумара „Ніва“ будзе каштаваць 2 злотых. Як мы ўжо паведамлялі, гэты захад трэба было зрабіць з увагі на агульнае падаражэнне выдавецкіх коштаў.**

**Узрост цаны тыднёвіка абавязвае і нас, яго стваральнікаў, павышаць якасць „Нівы“. Гэта мы разумеем. Будзем так працаваць, каб чытачы былі задаволены намі.**

**Як і раней, лічым таксама на вашае, дарагія чытачы, трывалае сяброўства і спагадлівасць.**

**Цана падпіскі будзе цяпер выглядаць наступным чынам:**

| | |
|---|---|
| **гадавая** | **— 104 зл.** |
| **паўгадавая** | **— 52 зл.** |
| **квартальная** | **— 26 зл.** |
| **месячная** | **— 9 зл.** |

**У краёвай падпісцы новыя цэны ўводзяцца ад IV квартала г.г. Падпісчыкі, якія зрабілі падпіску паводле ранейшых цэн, будуць атрымліваць тыднёвік без дадатковых даплат аж да сканчэння тэрміну аплачанай падпіскі. Для замежных падпісчыкаў (якія робяць падпіску ў сваіх краінах) новая цана ўводзіцца ў 1982 годзе.**

**Рэдакцыя**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### НОВЫ ІНСТЫТУТ

У Гомелі адкрылася сёмая ў краіне вышэйшая навучальная ўстанова Цэнтрасаюза — Гомельскі кааператыўны інстытут.

Дванаццаць гадоў назад тут пачаў працаваць факультэт, а затым філіял Маскоўскага кааператыўнага інстытута. Ён выпусціў сотні спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі. Цяпер філіял пераўтвораны ў самастойны інстытут.

### *КАЛЯНДАР*

**170 гадоў назад**

8.6.1810 нар. Р. Шуман, нямецкі кампазітар.

**110 гадоў назад**

9.6.1870 пам. Ч. Дзікенс, англійскі пісьменнік.

**85 гадоў назад**

8.6.1895 нар. І. Дварчанін, беларускі дзеяч.

**80 гадоў назад**

14.6.1900 нар. М. Забэйда, беларускі спявак.

* * * * * * * * * *

9 VI 1910 „Наша ніва“ паведамляла:

У Беластоцкім павеце маюць павялічыць лічбу пачатковых школ. Да цяперашніх 76-ці школ (міністэрскіх, царкоўна-прыходзкіх і прыватных) дабаўляюць яшчэ 88, гэта будзе каштаваць казне 303 тысячы 500 рублёў зразу і потым яшчэ па 107 тысяч рублёў штогод. Населенне ў Беластоцкім павеце па апошняму падшчоту 126 тысяч 768 душ мужчын і кабет; з іх дзяцей школьнага ўзросту ад 8 да 11 год — 15 тысяч 641, а вучыцца толькі 3 тысячы 634; іншым вучыцца няма дзе. Найбольш дзяцей ходзіць да школ у Гарадоцкай воласці; там на сто дзяцей — 49 школьнікаў, а найменш у Ясьвілаўскай воласці, — на сто дзяцей вучыцца толькі... 9. Гэта воласць лічыцца найменш граматнай.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153--201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 930. Nakład 7.700 I-2



*Спявае хор аўтакалоны 2408.* *Фота А. Качан*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА**

# ЯРКАЕ, ЗАПАМІНАЛЬНАЕ СВЯТА

Урачыста і ў той жа час з незвычайнай душэўнай цеплынёй раздаваліся песні „Гімн Леніну“, „Песня пра Гродна“, „Будзь слаўны ў вяках, прынёманскі край“, якія адкрылі заключны канцэрт гарадскога агляду калектываў мастацкай самадзейнасці. Гэтае свята мастацтва пацешыла гродзенцаў павышэннем выканаўчага майстэрства, цікавым і трапна выбраным рэпертуарам, маляўнічасцю і самабытнасцю беларускіх традыцый.

Любяць у горадзе песню і танец. Кожны дзесяты жыхар Гродна — удзельнік аматарскага руху. Пры палацах культуры і клубах дзейнічае каля трохсот гурткоў і калектываў: танцавальных, харавых, дэкламатарскіх, акрабатычных і інш. І нікога ўжо не здзіўляе тое, што ў вольныя ад заняткаў і святочныя дні цэлыя сем'і падаюцца на рэпетыцыі.

Асабліва цёпла ўспрымалі гледачы малых прыхільнікаў мастацтва. Дружнымі апладысментамі ўзнагародзіла зала выступленне ансамбля скрыпачоў дзіцячай музыкальнай школы, які з пачуццём выканаў „Песню Перамогі“ Гендэля, і „Польку-гульню“, што танцаваў дзіцячы ансамбль песні і танца Палаца культуры вытворчага аб'яднання „Азот“. Усіх узрушыла „гора“ маленькай спявачкі Валі Чаплі, што расказала ў песні пра ліхога папінага начальніка, з-за якога папа стаў няўважлівым да дачкі і нядаўна раздушыў яе любімую забаўку.

Песняй „Каханне, камсамол і вясна“ адкрыў другую частку канцэрта аб'яднаны хор. На сцэне — працаўнікі універсальнага магазіна, дзіцячай бальніцы, вучні прафесіянальнай школы, студэнты медыцынскага інстытута. Тэндэнцыя апошніх год — умацаванне харавых калектываў. Ахвотна ідуць людзі спяваць. На многіх прадпрыемствах хорамі кіруюць прафесіянальныя музыканты. І таму не дзіва, што сёння акадэмічнай вакалістыкай нас цешаць не толькі народная харавая капэла настаўнікаў, хоры універсітэта і педагагічнага вучылішча, але і многія рабочыя калектывы. Цікава выконваліся песні савецкіх і замежных кампазітараў хорамі тытунёвай фабрыкі „Нёман“, аўтакамбіната №2, завода аўтамабільных агрэгатаў, аўтакалоны 2408 і інш.

Як ніколі мнагалюдны быў заключны канцэрт у гэтым годзе. І агляд таксама. Больш за сем тысяч чалавек прыняло ў ім удзел. Гэта вынік таго, як заўважыў кіраўнік аддзела культуры гарадскога выканаўчага камітэта В. В. Юрэчка, што кіраўнікі прадпрыемстваў сталі звяртаць больш увагі на мастацкую творчасць.

...У яскравым строі дзяўчына. Свавольства, маладосць, задзёрнасць адчуваюцца ў кожным яе руху. Выходзяць іншыя ўдзельнікі калектыву „Папрадухі“ Палаца культуры прадзільна-ніцевага камбіната. Пачынаецца жвавая забава моладзі. Цудоўны танец „Закаблукі“, які паказвае характар беларускага народа. У мінулыя часы танцавалі яго на вяселлях, а цяпер ён здобіць канцэртныя сцэны.

Прыемна заўважыць, што і іншыя танцавальныя калектывы выкарыстоўваюць у сваіх кампазіцыях нямала фальклорных, самабытных беларускіх элементаў. Гарачая, жыццерадасная, каларытная „Лявоніха“ народнага ансамбля танца „Вязанка“ Палаца культуры вытворчага аб'яднання „Азот“, жартоўная „Палеская акалочна“ ансамбля танца „Раніца“ Палаца культуры тэкстыльшчыкаў, дынамічная, размашыстая „Маладзёжная полька“ нядаўна створанага, але, паводле ацэнкі спецыялістаў, абяцаючага танцавальнага калектыву завода сінтэтычнага валакна — усе яны спадабаліся гледачам.

Аздобілі праграму канцэрта таксама выступленні аркестраў народных інструментаў музыкальнага вучылішча і Палаца культуры тэкстыльшчыкаў. Гэтыя калектывы выканалі „Кадрыльную польку“ ў апрацоўцы А. Шырокава і „Танец з палескай сюіты“ Я. Глебава.

Як заўсёды, захапіў народны ансамбль песні і танца „Нёман“. Ён выканаў вакальна-танцавальную кампазіцыю „Рассыпанкі-полькі“. Гэта адзін з нумароў праграмы, якую артысты пакажуць польскім сябрам у часе гасцінных выступленняў.

Асабліва ўрачыста прагучалі ў выкананні аб'яднанага хору песні, у якіх славіцца партыя, савецкі народ, наша сацыялістычная рэчаіснасць.

**Г. Праўда**

## ХРОНІКА

■ Нядаўна ў памяшканні Галоўнага праўлення ў Беластоку на Варшаўскай 11 адбыўся вечар успамінаў пенсіянераў. Сустрэчы пенсіянераў адбываюцца там кожны месяц. Арганізатарам іх з'яўляецца мясцовы гурток БГКТ.

■ У сувязі з Днямі асветы кніжкі і прэсы 16 мая былі наладжаны аўтарскія сустрэчы нашых маладых літаратараў з літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Міхась Шаховіч чытаў свае вершы ў пачатковых школах у Кляшчэлях і Мілейчыцах, а пасля ў клубе „Рух“ у вёсцы Сухавольцы (гміна Кляшчэлі), а Ірына Баравік — у пачатковых школах у Дашах (гміна Кляшчэлі) і Рагачах (гміна Мілейчыцы), а таксама ў клубе „Рух“ у Тапарках (гміна Кляшчэлі). Пасля выступленняў з вершамі яны адказвалі на шматлікія пытанні вучняў і настаўнікаў і падпісвалі свае зборнікі жадаючым іх набыць.

■ 21 мая праўленне гуртка БГКТ у Беластоку правяло сустрэчу з беластоцкімі дэлегатамі на IX з'езд БГКТ і з імі былі абмеркаваны тыя пытанні і справы, з якімі яны павінны выступіць на гэтым найвышэйшым форуме БГКТ.

**(мх)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Вычулкі ● Апошні званок ● Толькі адно пытанне дырэктару СКР у Гайнаўцы ● Песні гродзенскіх студэнтаў ● Літаратурная вясна ў Бельску ● На Тройцу ў Літвінавічах ● Керсноўскія з Керснова ● У бетоннай труне ● Чалавечнасць ● Рэнтысталогія Дзядзькі Кваса ● Весткі з Боцькаў, Крынак, Нараўкі, Белавежы, Нарвы, Дубіч Царкоўных, Чаромхі ● Калі сніцца каханы ● Улоў Кастуся ● Руская народная песня „Глухой, неведомой тайгою“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 8 VI** — 6.20 TTR i RTSS — J. pol. 6.50 Biol. sem. II. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz „Tajemniczy ogród” — film TV ang. 10.20 Antena. 10.45 Świat, który nie może zaginąć. 11.35 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.25 Piórkiem i węglem. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Tylko w niedzielę c.d. Tylko Ja i Ty — ang. film fab.

**Poniedziałek 9 VI** — 9.00 Teleferie TDC. 12.45 TTR Hod. zwierz. sem. IV. 13.25 Mech rol. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.20 Niespokojna miłość — odc. 2 pt. „Ojciec” film TV CSRS. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Międzypaństwowy mecz w lekkiej atletyce Polska — RFN (mężczyźni). 21.00 Teatr Tel. Al. Ścibor-Rylski „Kaftan bezpieczeństwa. 22.25 Świat i Polska. 23.10 Dziennik.

**Wtorek 10 VI** — 6.00 TTR Hod. zwierz. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 9.00 Kino Teleferii. 13.25 TTR RTSS — Mat. sem. II. 14.00 Chem. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Klinika zdrowego człowieka. 17.40 Sonda. 18.05 Królik Bugs przedstawia — film anim. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia. 19.30 Dziennik. 20.10 Filmoteka Arcydzieł — La Strada — włoski film fab. 22.05 Międzypaństwowy mecz w lekkiej atletyce. 22.40 Ex libris. 23.00 Dziennik.

**Środa 11 VI** — 6.00 TTR RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Chem. sem. II. 9.00 Teleferie. 12.45 TTR RTSS — Hist. sem. IV. 13.25 Upr. roślin sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Los. Małego Lotka. 17.20 Studio Młodych. 17.45 Mistrzostwa Europy w piłce nożnej CSRS — RFN. ok. 18.30 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Małe kino — Oczekiwanie — film anim. 20.25 Mistrzostwa Europy w piłce nożnej — Grecja — Holandia 22.20 Konkrety. 22.45 Dziennik. 23.00 Camerata.

**Czwartek 12 VI** — 6.00 RTSS TTR Hist. sem. IV. 6.30 Upr. roślin sem. IV. 9.00 Kino Teleferii — Dawid Copperfield odc. I — film TV ang. 13.25 TTR Hod. zwierz. sem. II. 14.00 Upr. roślin sem. II. 15.50 Program dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.30 Rywalki — czech. film dok. 18.50 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 Małe Kino — Don Juan — film anim. 20.25 Mistrzostwa Europy w piłce nożnej Hiszpania — Włochy. 22.20 Pegaz. 23.05 Dziennik.

**Piątek 13 VI** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 6.30 TTR — Upr. roślin, sem. II. 9.00 Kino Teleferii. 12.45 TTR i RTSS — Fiz. sem. IV. 13.25 Mech. rol. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.00 Festiwal piosenki radzieckiej w Zielonej Górze — festyn dziecięcy. 17.45 Czterdziestolatek — odc. XVIII „Gra wojenna czyli na kwaterze” — film TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi — Otyłość a cukrzyca. 19.10 Magazyn bezpieczeństwa ruchu drogowego. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Ładna historia. 21.35 Memoriał im. Kusocińskiego. 22.15 Poglądy. 22.30 Dziennik. 22.45 Antyczny świat prof. Krawczuka.

**Sobota 14 VI** — 6.00 TTR i RTSS — Fiz. sem. IV. 9.00 Kino Teleferii. 12.45 TTR i RTSS — Hist. sem. II. 13.25 Chem. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Wojsk. program hist. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Studio-8. 17.45 Mistrzostwa Europy w piłce nożnej RFN — Holandia. 19.30 Dziennik. 20.10 Studio-8 c.d. — „Pogoda dla bogaczy” — film TV ameryk. 21.05 Międzynarodowe zawody lekkoatletyczne. 21.35 Festiwal piosenki radzieckiej w Zielonej Górze. 22.50 Dziennik. 23.05 Studio-8 c.d. 24.00 Kino Nocne — „Śmierć w głębinie” — ang. film krym.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 6 VI** — 8.35 Film. fab. 18.55 Film ser.

**Sobota 7 VI** — 8.35 Film ser. 13.45 Film dla dzieci. 15.00 Nie do wiary. 16.00 Cyrk. 17.15 Filmy anim. 17.50 Koncert. 18.55 Film ser. 20.35 Koncert.

**Niedziela 8 VI** — 13.00 Film ser. 15.45 Klub podróży. 16.45 Film anim. 17.00 Panorama międzynarodowa. 18.00 Koncert życzeń. 18.40 Film ser. 20.35 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Niebieskie kołnierzyki — USA 10—11. Król cyganów — USA 12—13. San Babila godzina 20-ta — wł. 14—15.
**Bielsk Podl.** Oddział — USA 9—11. Porwanie Sawoi — pol. 12—13. Zabawka — fr. 14—15.
**Czeremcha** Kuzynka Angelika — hiszp. 10—11. Szpital Przemienienia — pol. 14—15.
**Czyże** Hotel klasy lux — pol. Dziewczyna do dziecka — wł. 11—15.
**Gródek** Afera Concordo — wł. 14—15.
**Hajnówka** Gorączka sobotniej nocy — USA 9—11. Młody Frankenstein — USA 12—13. Sekret Enigmy — pol. 14—15.
**Michałowo** Odpowiedź zna tylko wiatr — RFN 10—11. Niezamężna kobieta — USA 12—13. Kombinator — NRD 14—15.
**Mielnik** Miłość bywa zbrodnią — wł. 11. Do krwi ostatniej — pol. 14—15.
**Milejczyce** Porwanie „Savoi” — pol. Rewolwer Python 357 — fr. 11—15.
**Narew** Zerwane cumy — pol. Edukacja specjalna — jug. 11—15.
**Narewka** Wierna żona — fr. Wrześniowa eskapada — rum. 11—15.
**Nurzec** Wielki samotnik— rum. 10—11. Śnieżyczka i Różyczka — NRD 12—13. Zielone lata — pol. 14—15.
**Orla** Aria dla atlety — pol. Gang Olsena na szlaku — duń. 11—15.
**Rajsk** Zmory — pol. Cygańska miłość — bułg. 11—15.

**БУГ У АГНІ**




Ішоў я на сустрэчу з жыхарамі Турна Малая, з Аляксандрам Лучкам, да якога накіраваў мяне сын Любы і Міхала Млынарчукоў, але ў мазгах безупынку бубніла іншае прозвішча: **Іван Мікалаевіч Шыбакоў.** Яно ўжо даволі часта паяўлялася ў маіх расказах аб падзеях на Бугу ў чэрвені 1941 года. Але што я аб ім ведаў? Столькі, колькі ён сам пра сябе расказаў на шасці старонках друку ў кніжцы *„Буг в огне“*. Ведаў тады я, што Іван Мікалаевіч у чэрвені 1941 года быў малодшым лейтэнантам і камандаваў баявым узводам, які займаў доўгатэрміновы абаронны пункт з кодавай назвай **„Быстры“**, дзе быў ён цяжка параненьі і затым трапіў у гітлераўскі палон. Аб гэтым я ведаў і расказаў чытачам.

А што далей? Я ж памятаю незавідны лёс палонных чырвонаармейцаў. Пад восень 1941 года і ў час асабліва суровай ды надзвычай марознай зімы 1942 года сноваліся яны па нашых вёсках, як цені з іншага свету, як казачныя кашчэі — абарваныя, замораныя, галодныя...

Маці прадбачліва заўсёды ставіла на пліту пад нейкі боршч або капусту ці іншы суп самы найвялікшы чыгун, каб засталося „ім“. І вядома было каму. А „яны“ прыходзілі, прагна кідаліся на ежу, бацька прасіў, каб не спяшаліся, каб елі памяркоўна, *„бо зашкодзіць“*. Старэйшага брата ў гэты час, як правіла, высылалі за вёску „на гару“, каб сачыў за немцамі, ці выпадкова не задумалі яны наведаць нашу вёску. За гасцінны прыём гэтых „бандытаў“, як называлі іх гітлераўцы, у найлепшым выпадку пагражала накіраванне ў канцэнтрацыйны лагер, але найчасцей канчалася гэта лютай расправай над усёй сям'ёй, як гэта здарылася з дзядзькам Юльянам, пра якога раскажу я калі-небудзь болей падрабязна.

Гітлераўцы, каб выявіць сялян, найбольш спрыяючых гэтым савецкім воінам, найчасцей не па сваёй віне папаўшым у бяду, засылалі сваіх правакатараў, якіх знаходзілі сярод рознай нацыяналістычнай драні, якая пайшла да іх на службу, або сярод адурманелых юнакоў, якім захацелася зраўняцца ў „панстве“ з панамі гэтага свету, як сябе прадстаўлялі гітлераўскія служакі. Пераапраналі іх у рознае лахмоцце і разганялі па вёсках за жабранінай. Такога аднак пераапранутага „ваеннапалоннага“ няцяжка было распазнаць адразу на парозе хаты. Пабыўка за калючым дротам, з-за якога ўдавалася вырвацца жывым ледзь нейкаму сотаму чалавеку, заўсёды пакідала сваё непаўторнае кляймо ў выглядзе, у вачах, на твары і ў своеасаблівых паводзінах ды ў спосабе выяўлення просьбы. Гэтага не можна было завучыць ані падрабіць. Для такіх фальшывых „гасцей“ быў у нас адзін і заўсёды той самы адказ, які мы паўтаралі, як завучаную малітву:

— У нас саміх нічога няма, ні хлеба, ні бульбы. Толькі ў гаршчку, што на пліце, крыху памый для свіней назлівалі...

Вядома было, што той, хто не перажыў сапраўднага голаду, хто сярод пяску і балота, растоптанага чалавечымі нагамі, не вымушаны быў шукаць якой-колеч сцяблінкі травы, каб, жаваць яе доўга і з асалодай, хто не марыў аб кусочку хлеба як аб найвялікшым шчасці, таго дарэмна заахвочваць да гэтага гаршка.

Гэтыя сапраўдныя нешчаслівцы, якім нашы людзі ахвотна і шчыра дапамагалі, адплачваліся нам жудаснымі расказамі пра свой лёс і свае перажыванні. Верыць не хацелася, але яны былі жывымі сведкамі і гаварылі праўду.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 3)

малатка. Гэта забіваюць труну, якую неўзабаве апусцяць у гроб. Пакойніка клалі галавою на захад, так як дзверы ў царкве. Пасыпалася зямля. Першыя тры разы сыпнуў свяшчэннік. Потым падыходзілі прысутныя і таксама сыпалі па тры жмені, каб памёршаму зямля была лёгкай. У нагах паставілі крыж. Гэта таксама мае сваё значэнне. Згодна з перакананнем людзей, калі трэба будзе ўставаць на „страшны суд“, дык памёршы схопіцца рукамі за крыж і лягчэй яму будзе падняцца. Сам крыж будзе доказам таго, што памершы хрысціянскага веравызнання.

Магіла засыпана. Жонка памершага або маці, адным словам, той, хто прынёс куццю, ходзіць паміж прысутнымі і частуе іх ёю. Бралі заўсёды рукою, жадаючы ўзамен „нябеснага царства“ памершаму. Калі куццёю частавалі адразу на могілках, азначала гэта, што не будзе пахавальнага абеду. Было гэтак у бедных сем'ях. У іншым выпадку ўсе ехалі ў хату, дзе і дзялілі куццю. Абед быў скромны, ціхі. Апрача куцці іншых тыпова пахавальных страў не было. Выступала ўсё, што змаглі падрыхтаваць. Была таксама і гарэлка. Пасля абеду са сталоў ніколі не прыбіралі. Павінна яно ляжаць там цэлую ноч. Верылі ў тое, што прыдзе памершы і сядзе вячэраць.

## Пахаванне

Зусім інакш выглядала пахаванне пакончыўшых самагубствам. Не хавалі іх на могілках, не хавалі таксама з рэлігійным абрадам, згодна з перакананнем людзей, душа іх аддадзена была злой сіле. Але пра душу пагаворым наступным разам.

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

## Мікалай Петручук

Кругом ішоў бой. Нас пераадзелі, паказалі, як страляць і на другі дзень направілі на перадавую. Было мне тады няпоўных васемнаццаць год. Выйшаў я з бою жывы і цэлы. Загінулі многія. Загінуў там таксама брат маёй жонкі Іван Раеўскі. Наступная мая перадавая была пад Піляў. Пасля двух тыдняў на фронце мяне кантузіла. У траншэі ад выбуху снарада прысыпала мяне зямлёю і зусім аглушыла. А зямлі налезла ў вушы і нос столькі, што ледзь можна было вытрымаць.

Кантужанага Мікалая Петручука адвезлі ў санітарны батальён, а адтуль накіравалі ў 58 запасны стралковы полк. Вось з гэтага часу ў яго пачалася больш-менш нармальная вайсковая служба. Праз тры месяцы перакінулі яго ў 110 дывізію. І ў ёй быў аж да канца вайны. Іх часць пасля перамогі была накіравана на банды ў Аўгустоўскай пушчы, на Сувальшчыну. Пракалясіў ён тыя мясцовасці ўздоўж і ўпоперак.

У другой палавіне лістапада 1945 года вайсковая часць Мікалая Петручука выехала ў СССР у горад Варашылаўград. Там ён служыў у Савецкай Арміі больш года. Адтуль накіраваны быў у танкавую школу.

Вярнуўся дамоў Мікалай Петручук толькі ў верасні 1948 года ў салдацкім шынялі. За шэсць год адсутнасці стаў сталым і сур'ёзным чалавекам. Але гэта толькі так гаворыцца, што вярнуўся дамоў. Свайго дома не было. Яго разабралі немцы. Жылі тады ў чужой хаце, у Веры Петручук. Хварэў бацька. Праз некалькі месяцаў ён памёр, і стала яшчэ цяжэй. У Петручукоў, апрача Мікалая, былі яшчэ два сыны і тры сястры. Найменшаму дзіцяці было толькі чатыры гады. Уся надзея была цяпер на Мікалаю. І ён узяўся за працу, за гаспадарку і будоўлю. Купіў коніка, старэнькую хату, пасля паставіў стадолу і хлявы. З кожным годам нешта набываў і цяжка працаваў.

Калі ён жаніўся ў 1956 годзе, меў ужо пару коней, 6 кароў, некалькі свіней ды шмат курэй. Яго гаспадарка залічалася да сярэдніх.

А як цяпер? Цяпер яго гаспадарка залічваецца да найлепшых у вёсцы. Мае ўласны трактар і многа сельскагаспадарчых машын. Не хапае толькі бульбакапалкі.

Жонка Соня — дбайная, добрая гаспадыня. Сыну Аляксею ўжо дваццаць два гады. У такой гаспадарцы, як у іх, мужчынская пара рук вельмі патрэбная. Дачка Валя вучыцца ў Беластоку ў сельскагаспадарчым тэхнікуме на агародніцкім аддзяленні. Але яна, калі мае крыху вольнага часу, спяшаецца дамоў і, прыехаўшы, дапамагае бацькам.

Мікалай Петручук з сваёй 13-гектаровай гаспадаркі дае дзяржаве шмат сельскагаспадарчых прадуктаў. У 1973 годзе ўступіў ён у рады ПАРП. У сваёй партыйнай арганізацыі праяўляе ўвесь час вялікую актыўнасць. Даволі доўга з'яўляецца членам экзекутывы гміннага камітэта ПАРП у Нарве і солтысам у сваёй вёсцы. Нейкі час быў ён таксама членам Ваяводскага камітэта ПАРП. Узнагароджаны медалем Перамогі і Залатым і Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## Палоска Дзядзькі Кваса

# ДВА ПАРТРЭТЫ

Рвачоў, хапуноў (дзяры, лупі, бяры, што не тваё) у нас хапае. Гэтыя праныры з'яўляюцца ўсюды, дзе чуюць лёгкую нажыву, празнымі спосабамі дабіваюцца не належных ім прыбыткаў. Нажываюцца, не звяртаючы ўвагі на асяроддзе, суседзяў, закон і мараль.

Некаторыя ў хапунскае амплуа ўключаюць нават уяўныя здзяйсненні. Калі ў сямідзесятых гадах выйшаў закон, які забяспечваў збавідоўцам дармовае лячэнне і прыспешаную рэнту, аб'явіўся ў нас адзін Аніка-воін. Усе яго і раней ведалі. Вярнуўся з вайны (1941) пасля трох тыдняў. Выглядзеў добра, быццам прыехаў з курорту. Гладзенькі, адкормлены, вясёлы. Аб сваіх ваенных подзвігах гаварыў неахвотна, цьмяна. Змагаўся, тры разы ў палон трапляў, уцякаў, нарэшце дамоў дабіўся.

Хто яго ведае, можа так і было б, каб, „дабіваючыся“ ў збавідаўцы, не стварыў сабе легенды хвацкага партызана-падрыўніка, які пусціў угару цягнік з гітлераўскім войскам і боепрыпасамі. Не ведаў ён, што тыя, якія прымалі ў збовід, ведалі прозвішчы цэлай групы, якая здзейсніла гэты подзвіг. Яго ў ёй не аказалася. Прамахнуўся, значыць.

* ✼ *

У мінулым годзе быў я ў Беластоку. З паваротным білетам сядзеў я на лаўцы на станцыі ПКС. Ажно звяртаецца да мяне прыгожая жанчына (хоць ужо, відаць, у гадах):

— Ці вы, дзядзю, часам не з-пад Буга?

— Не, — кажу, — а што вы з-пад Буга, шукаеце таварыша на дарогу?

— Не, — кажа, — я з-пад Бебжы, а пытаю з цікавасці. Калі пачалася ў 41-м вайна, у першы дзень падвечар прыйшоў на мой хутар вайсковец: Пражыў у мяне з тыдзень. Потым пайшоў пад Буг, пабачыцца з матуляй, меў вярнуцца...

Тут падыходзіць да яе малодшая кабетка і кажа:

— Мама, дай мне грошы...

Ах ты, маці-прырода! Да чаго ж дачка маёй свежай знаёмкі была падобная на нашага Аніку-воіна.

* ✼ *

Успамінаецца артыкул М. Шаховіча „Жыццё пад арышты і стрэлы“, у якім апісвае наш аўтар жыццё Ул. Харкевіча з Міхнаўкі. Біяграфія героя заканчваецца яго словамі (цытую): „Зараз на рэнце. Здаў зямлю. Прыслалі і прапанавалі мне спецыяльную рэнту, але ў мяне свая, а так можа і таварышу некатораму ці суседу майму было б крыўдна, што я больш ад яго маю. Не хачу“.

Чулі? Так гаворыць сапраўдны герой.

Два партрэты. Дзве несумяшчальныя маралі.

**Дзядзька Квас**

(Працяг са стар. 3)

# ЭХ, ВАЙНА, ВАЙНА...

войска ў Княжыне засталося без сувязі з Дубічамі. Пасля немцы прарвалі абарону і пайшлі ўперад, а часць у Княжыне засталася ў акружэнні. Але немцы аб гэтым, бадай, не ведалі, бо яны перлі напірад па шасейных дарогах. Аднаго дня ў Грабаўцы, а канкрэтна ў нас на панадворку, дзе быў прыгожы сад, затрымаўся нанач эскадрон нямецкай кавалерыі. Але не начаваў да раніцы, бо прыйшоў загад, каб ехаць у Дубічы Царкоўныя. Там каля царквы яны разбілі лагер і вырашылі выспацца, выставіўшы вартавых.

Не магу сказаць, як было, ці яны ўжо заснулі, ці не паспелі, але ведаю, і не толькі я, што заснуць вечным сном прымусіла іх гэтая вайсковая частка Чырвонай Арміі, якая стаяла ў Княжыне. Яны паціхеньку падыйшлі да вартавых і ўрукапашную пабілі нямецкіх кавалерыстаў. Не, не ўсіх. Адзін у кальсонах гнаўся на „бельгійцу“ праз Грабавец да Кляшчэль, каб паведаміць аб сваёй трагедыі. Што ён думаў, калі ўцякаў гэтак, цяжка адгадаць, але напэўна вельмі хацеў застацца жывым.

І вось, Віктар, думаю, што з гэтай часткі Чырвонай Арміі, якая „афарміла“ эскадрон кавалерыі ў Дубічах Царкоўных, нарадзіліся першыя народныя мсціўцы-партызаны Белавежскай пушчы.

Эх вайна, вайна, каб ты загінула назаўсёды!

**Васіль Петручук**

— Я тут усяго тры гады, — кажа **Яланта Фалькоўская.** — Гэта мой любімы свет. Я ж русіст! Тут удасканальваю маё валоданне рускай мовай, паглыбляю знаёмства з рускай літаратурай і літаратурамі іншых народаў Савецкага Саюза. Ужо паспела я скамплектаваць значную хатнюю бібліятэку, маю ладныя зборы альбомных выданняў і цалкам прыстойную калекцыю цудоўных вырабаў народных майстроў з Хахламы і Палеха. У мяне ёсць блізкая сяброўка каля Іванава. Мы адна ў другой гасцюем...

А каля паліц з кнігамі вучань пачатковай школы побач з сівенькім дзядулем, відаць, былым настаўнікам, сялянка з далёкай вёскі недзе з-пад Мельніка каля прафесара Беластоцкай палітэхнікі знаёмяцца з навінкамі. Прадаўшчыца з суседняй крамы на хвілінку „ўскочыла“ ў кнігарню за ўзорамі вышыўкі, а інжынер з Катавіц, што прыехаў наведаць сваіх бацькоў пад Крынкамі, спецыяльна вылучыў некалькі гадзін, каб наведаць іменна гэтую кнігарню, узбагаціць сваю хатнюю бібліятэку каштоўнымі набыткамі і проста пабыць тут...

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



*Мілую атмасферу ў кнігарні ствараевось гэты калектыў яе працаўніц.*

